# Ніва

ISSN 0546—1966
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 11 (1557) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 16 САКАВІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл.




На раённым аглядзе „Беларуская песня-86“ у Беластоку. Фота Сяргея Грынявіцкага.

## АРГУМЕНТ

Пішу адразу пасля раённага агляду „Беларуская песня-86“ у Беластоку. Яшчэ не прыйшоў у сябе ад уражанняў, якія вынес з Дома культуры „Закэнта“. Не мне ацэньваць асобныя калектывы і салістаў. Я хачу пару слоў сказаць аб нашых песенных конкурсах.

Зала клуба была перапоўнена да такой ступені, што не было дзе яблыку ўпасці. І было шмат моладзі. Многія вярнуліся дамоў з-пад зачыненых дзвярэй клуба.

Не ведаю, як спевакі могуць даспяваць песню да канца, бачачы, што народ проста плача. Я за заслонкай слёз амаль не бачыў мужчынскага калектыву з Рыбалаў, але чуў, што іх галасы не дрыжалі, калі яны выконвалі сваю першую песню аб удаве. Вакол мяне людзі плакалі, як і я, а іх галасы ўсё ж звінелі чыста, гарманійна і так прыгожа, як заўсёды. І, як заўсёды, суправаджаў іх нязломны Пётр Нявінскі. І другое, што мяне здзіўляе, гэта Юрка Налівайка: на агляды падбірае сабе такія песні, што нельга абыякава слухаць, бо яны таксама кранаюць сэрца. А ён спявае чыста, хоць з вачыма, поўнымі слёз!

Я не хачу гэтым сказаць, што на аглядах збіраюцца толькі плаксы. Не, гэта песні прыводзяць нас у такі стан. Яны нікога не пакідаюць абыякавым да нашага мінулага і да прыгажосці нашай зямлі, на якой жы-

(Працяг на стар. 7)




### ДУРНЕЙШЫ СЫН ДУРНОГА БАЦЬКІ

У мяне няма ахвоты быць дурнейшым сынам дурнога бацькі.

Напісанае А. Барскім у яго рубрыцы „На мяжы“ ад 26 студзеня г.г. можна аднесці да кожнага, да самога аўтара таксама. А так наогул, дык з дурняваннем трэба яму абачлівей: не народы застаюцца ў дурнях, а іх палітыкі. Я гэтым не пярэчу, што з намі, беларусамі, было і ёсць менавіта так: сярод нацыянальных груповак тадышняй Польшчы нашы „бацькі“ ўстанавілі ганебны рэкорд у непаслядоўнасці, хаосе ды завідлівасці, а мы, іхныя дзеці, пераналі гэтую жахлівую спадчыну. Ну што ж, мець прэтэнзіі да народа, нават за тое, што ён страчвае розум, гэта занятак зусім бяссэнсавы і быў бы лішні гонар называць яго праявай зазнайства, рэцыдывам арагантнасці. Я асабліва хачу тут аднаго — спрабаваць усвядоміць сабе, чаму гэтак было і надалей ёсць.

Нешта зразумець — гэта ў значнай меры і выйграць: добры пачатак лічыцца паловаю ўдачы. На мой погляд, сутнасць тае беларускай грыжы, як жа ашаламляльнай для суседзяў і далейшых, знакаміта перадае народны афарызм: „Таму я дурны, што бедны, а таму бедны, што дурны“. Справа не ў квадратуры бязвыйсця: чалавецтва здаўна заўважыла ўзаемную залежнасць паміж узроўнямі матэрыяльнага існавання і духоўнага існавання (Маркс фармулюе: быт вызначае свядомасць). Прафесар Тамашэўскі ў цытаванай намі кніжцы справядліва не абышоў бокам тую з'яву, адзначаючы, што за беларускім рукам бачыліся найскромныя сродкі, настолькі ён быў „ветрам падшыты“, што можна здзіўляцца ягонай усё-такі жыццяздольнасці (галадней за заходнебеларусаў ніхто не жыў, „гуралі“ і тыя дастойней). У зацюканай ды бясхлебнай радзіме ўсё лямант і сварка, падкусванне і даносы, сястры на брата, жонкі на мужа... Мараль, як відома, з'яўляецца пасля хлеба (грэх навучаць галоднага, перш трэба яго пакарміць, бы ў славуты цуд Хрыстоў з размнажэннем ежы для слухачоў сваіх). Геаграфія багацця адпавядае геаграфіі культурнасці, не відаць народаў бедных, але культурных, як і не ўгледзіш народа багатага, але некультурнага ў сваім нацыянальным патэнцыяле (мараль ёсць частка культуры).

Праўда, мы — „дзеці“ тых „бацькоў“ — пабагацелі, не абуваем лапцяў, карыстаемся туалетам з ваннаю, фарсім аўтамі, самаквальна разбэшчваем дочачак і сыночкаў на будучае панства з бляскам зікатлівейшым ад нашага цяпер. Адначасова, аднак жа, скугольным сабачанём валачэцца за намі дзяцінства нашае, свядомасць паходжання бядняцкага, якая дазволена і недазволена засела ў душах нашых выяўленым або і нявыяўленым комплексам убоства. Іначай значыць: несціханая памяць пра незабыўную галоту, пра тыя холад, голад і паморак, з якіх менавіта мы вылезлі ў новы час ды эпоху. Псіхічна мы — вось што! — блізка адыйшліся даперадзу. Глянь, Барскі, на кватэры гэтыя нашыя, яны аж трашчаць ад усялякага дабра, зрабіліся падобнымі на нейкія склады дарагой мэблі, настаўленай па-магазіннаму абы-як, абы змясціць. Кінь вокам, Барскі, і на паводзіны землячкоў, што пруцца на замежныя экскурсіі. Што іх тамака найманцней цікавіць: музеі і кі-

(Працяг на стар. 4)




## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XXVIII)

Здаралася мне чуць, нават ад беларусаў, што мы завялікую ўвагу і энергію прысвячаем музею, замест таго, каб займацца сучаснасцю. Яны рабілі падзел беларускіх праблем на мінулае і сучаснае, і Беларускі музей у іх разуменні адносіўся да мінулага. Думаю, што і сярод чытачоў ёсць людзі, якія лічаць, што наша захапленне музеем завялікае і ў шкоду яно нашым актуальным задачам. Яны не разумеюць таго факту, што ніякі народ, племя ці этнічная група ніколі ўласціва не сфарміруе сваёй будучыні без глыбіннага пазнання свайго мінулага. Музей матэрыяльнай культуры гэта збор усяго таго, што было зроблена ў мінулым нашымі продкамі. Усе тыя прылады і інструменты, якія былі выкананы на працягу соцень гадоў нашымі продкамі, сведчаць аб тым, што яны ў варунках, значна горшых ад нашых, патрапілі стварыць самастойную тэхнічную сістэму, якая дазваляла існаваць цэлым пакаленням беларусаў. Матэрыяльная культура мінулага сведчыць аб дасканалым беларускім умельстве.

Будучы дваццаць гадоў таму назад у Парыжы. я пайшоў у музей чалавека. Вялікае было маё здзіўленне, калі ўбачыў я ў ім толькі два экспанаты з Польшчы. Адзін экспанат — кракаўская вопратка і другі — драўляная кружка-чарпак з Беласточчыны. Чарпак (не маю ў гэтай справе сумненняў) — тыповы беларускі выраб з усходняй Беласточчыны. Падумаць, найвыдатнейшыя спецыялісты — этнографы з Францыі як найбольшую вартасць з усіх праяваў матэрыяльнай культуры выбралі кракаўскі строй і беларускі чарпак.

А колькі ж такіх чарпакоў і іншых не меней каштоўных прадметаў мы, беларускія сыны і дочкі, бяздумна знішчылі, лічачы іх ужо непатрэбнымі і непрыдатнымі?

На жаль, і я асабіста не без віны. Гадоў трыццаць пяць таму назад я асабіста парубаў старую драўляную барану, калі толькі мы з бацькам прынеслі з кузні зробленую кавалём новую барану драўляна-жалезную. Тое ж самае зрабіў я і са ступкай, у якой прабілася дно. У сваё апраўданне хачу сказаць, што ўдалося мне пры гэтым не толькі захаваць многія экспанаты з бацькоўска-матчынай гаспадаркі, але таксама і купіць дзесяткі экспанатаў у розных беларускіх вёсках. Некаторыя з прадметаў перадалі мне беларусы бясплатна, за што хачу ім сардэчна падзякаваць.

Тысячы беларускіх экспанатаў павандравала пасля вайны з Беласточчыны ў розныя музеі на ўсёй тэрыторыі Польшчы. Вельмі многія экспанаты вывез у Торунь супрацоўнік Тарунскага этнаграфічнага музея Марыян Пецюкевіч. Зразумела, што за гэта нельга мець прэтэнзіі да Пецюкевіча. Многія з экспанатаў, якія ён вывез, калі не існаваў беларускі музей, змарнаваліся б, згнілі б, або былі б парубаны ці спалены.

Бяда ў іншым. Бяда ў тым, што ва ўсіх тых беларускіх прадметаў, якія апынуліся ў польскіх музеях, адабралі іх арыгінальныя беларускія назвы. Наступіла недапушчальная, з пункту навуковага гледжання, перахрышчэнне, і пры беларускіх экспанатах паявіліся толькі польскія назвы. На маю думку, кожны музей гэта навуковая ўстанова, якая павінна дбаць аб захаванні поўнага аўтэнтызму ўсяго таго, што складае матэрыяльную культуру. З вялікім бо-

(Працяг на стар. 7)




### СЕЯЛКА НА ПАШЫ

Спецыяльную сеялку для паверхневага паляпшэння лугоў і пашы стварылі вучоныя Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. З яе дапамогай можна павысіць прадукцыйнасць кармавога гектара ў два-тры разы.

Навінка сканструявана на базе звычайнага фрэзернага прапашнога культыватара, на якім устаноўлена высявальная пнеўматычная сістэма. Агрэгат адначасова рыхтуе глебу і загортвае насенне на неабходную па агратэхніцы глыбіню. Сеялка працуе ў счэпцы з трактарам „МТЗ-80“ з прадукцыйнасцю два з палавінай гектары ў гадзіну і па сваіх тэхнічных характарыстыках не ўступае лепшым зарубежным узорам.

Новы пасяўны агрэгат ужо добра зарэкамендаваў сябе ў базавай гаспадарцы акадэміі. Ён дапамог вырашыць праблему абнаўлення кармавых угоддзяў без іх пераворвання.

Пры новай тэхналогіі патрабуецца менш насення. У час вытворчых выпрабаванняў сеялкі ў гаспадарках раёна ўраджайнасць зялёнай масы патроілася. Падсяванне траў такім спосабам у параўнанні з карэнным паляпшэннем кармавых угоддзяў каштуе танней у чатыры разы.

### З ПОГЛЯДАМ У ЗАЎТРА

У Гальшанскім сельсавеце на Ашмяншчыне ўведзена ў строй аўтаматычная тэлефонная станцыя, якая забяспечвае ўстойлівую скорасную сувязь паміж абанентамі. Паслугамі тэлефоннага вузла карыстаюцца зараз 300 сямей. У далейшым магутнасці дазволяць павялічыць колькасць абанентаў да дзвюх тысяч.

Сувязісты Беларусі пастаянна клапоцяцца аб комплекснай тэлефанізацыі сельскай мясцовасці. Толькі за гады мінулай пяцігодкі яны падключылі да АТС каля 80 тысяч нумароў.

### У БЯРЭЗІНСКІМ БІЯСФЕРНЫМ

Тэрыторыя Бярэзінскага біясфернага запаведніка часта служыць здымачнай пляцоўкай пры стварэнні фільмаў. Тут здымаліся новая мастацкая стужка „Ідзі і глядзі“, фільм па вядомай эпапеі Івана Мележа „Людзі на балоце“. Кінадакументалісты стварылі ў запаведніку навукова-папулярныя фільмы: „Бярэзінскі запаведнік“, „Біясферныя запаведнікі СССР“, „Не ведаеш грыб — не бяры“, „Па старонках Чырвонай кнігі СССР“.

Павышаную цікавасць да жамчужыны прыроды Беларусі праяўляюць і замежныя творчыя групы. Фінская тэлекампанія знайшла тут удалыя сюжэты для стужкі „Жывёльны свет Савецкага Саюза“. Вядомы ўсяму свету вучоны-натураліст Джэральд Дарэл пабываў у Бярэзінскім запаведніку ў складзе канадскай здымачнай групы. У выніку тэлекампанія зняла фільм „Ахова дзікай прыроды ў СССР“.

### СПОРТ

■ Першынство Савецкага Саюза па дзюдо сярод юніёраў прайшло ў Мінску. У вагавай катэгорыі да 86 кілаграмаў чэмпіёнам краіны стаў армеец з Мінска Леанід Свірыд.

■ Першае ў гэтым годзе выступленне зборнай СССР у матчы з лёгкаатлетамі Італіі і Югаславіі (Турын) завяршылася ўпэўненай перамогай савецкіх спартсменаў. Яны першынствавалі амаль ва ўсіх нумарах праграмы (жанчыны ўступілі толькі на 400-метровай дыстанцыі, а мужчыны прапусцілі сапернікаў наперад толькі ў бегу на 800 і 1500 метраў).

Мінчанка Алена Бяляўская прынесла перамогу зборнай СССР у скачках у даўжыню. Яе вынік — 687 сантыметраў.

■ Мінчанка Алена Альтшуль зноў мацнейшая сярод шашыстак свету. Гэта высветлілася пасля заканчэння ў Кане (Францыя) трынаццатага тура спаборніцтваў па міжнародных шашках. Чэмпіёнка свету набрала 21 ачко. З такім жа вынікам фінішыравалі і яшчэ дзве савецкія спартсменкі — мінчанка Зоя Садоўская і Жывіле Рынгялене з Вільнюса. Але адпаведна правілам чэмпіёнка свету захавала тытул мацнейшай.

Цяпер З. Садоўскай і Ж. Рынгялене прадстаіць дадатковы паядынак за права аспрэчваць „шашачную карону“ ў будучым цыкле з А. Альтшуль.




## ТАЙНА, ЯКУЮ РАСКРЫЎ МІСТЭР КІУОРТ

Нядаўна пайшоў у адстаўку саветнік прэзідэнта ЗША Рэйгана па навуковых пытаннях Кіуорт. На развітанне ён даў інтэрв'ю газеце „Вашынгтон пост“ у сувязі з прэзідэнцкай так званай „стратэгічнай абароннай ініцыятывай“. Быў шчырым: па сутнасці, сказаў ён, размова ідзе аб стварэнні не абароннага касмічнага „шчыта“ над Злучанымі Штатамі, а глухога проціракетнага „каўпака“ над Савецкім Саюзам у выглядзе прынцыпова новай ударнай касмічнай зброі, здольнай паражаць любыя цэлі на тэрыторыі СССР. Цяпер, працягваў Кіуорт, для вашынгтонскай адміністрацыі няма мэты больш важнай, як неадкладнае фарсіраванне работ па праграме „зорных войнаў“ з тым, каб у пачатку 90-х гадоў пачаць разгортванне сістэмы проціракетнай абароны з элементамі касмічнага базіравання.

Такім чынам, пакуль афіцыяльны Белы дом заняты так званым „вывучэннем“ савецкіх мірных прапаноў, „краўцы“ з Пентагона ліхаманкава майструюць злавесны ракетна-ядзерны касмічны „каўпак“, каб трымаць пад ім не толькі СССР, але ўсю планету. Ваенна-прамысловыя манаполіі, як кажуць, аж са скуры вылузваюцца, каб стаць уладальнікамі буйных заказаў для касмічнага „каўпака“. Як адзначае заходнегерманскі часопіс „Шпігель“, „амерыканскія канцэрны па вытворчасці ўзбраенняў прыйшлі да вываду, што праграма „зорных войнаў“ — гэта іх будучыня. І ніхто ўжо не можа прымусіць іх адмовіцца ад яе“.

Зграя імперыялістычных драпежнікаў накінулася з усіх бакоў на спечаны Белым домам тлусты бюджэтны пірог. Амаль паўмільярда долараў уварвала карпарацыя „Макдонел-Дуглас“ — на распрацоўку, выраб і выпрабаванне навейшых ракет, якія, на думку міністра абароны ЗША Уайнбергера, павінны стаць састаўной часткай мнагаслойнай касмічнай абароны. Сотні мільёнаў долараў паклалі ў свае сейфы такія даўнія падрадчыкі Пентагона, як „Джэнерал дайнэмікс“, „Рокуэл інтэрнэшнл“, „Нортрап“.

„Шпігель“ паведамляае, што 45 працэнтаў сродкаў, выдзяляемых на „стратэгічную абаронную ініцыятыву“, трапіць у Каліфорнію, дзе, як вядома, восем гадоў губернатарстваваў цяперашні кіраўнік вашынгтонскай адміністрацыі. У Каліфорніі знаходзяцца штаб-кватэры і ўжо названых вышэй „Макдонел-Дуглас“, „Джэнерал дайнэмікс“, „Рокуэл інтэрнэшнл“, а яшчэ і такіх не менш вядомых буйных імперыялістычных спрутоў, як „Локхід“, „Боінг“, „Х'юз эйркрафт“, якія ператварылі Каліфорнію ў сусветны цэнтр ваеннай прамысловасці.

„Дзякуючы прэзідэнту Рэйгану, — заўважае французская „Фігаро“, — кошт кантрактаў, выконваемых ваенна-аэракасмічнай індустрыяй Каліфорніі, узрастае з 1981 года на 10 працэнтаў штогод і ўжо дасягнуў 35 мільярдаў долараў. З партфелем заказаў, аб'ём якіх перавышае 80 мільярдаў долараў у год, — працягвае газета, — гэтыя буйнейшыя ваенна-прамысловыя карпарацыі літаральна „купаюцца ў грашах“.

У сувязі з тым яшчэ раз спашлюся на заходнегерманскі часопіс „Шпігель“, які піша, што „для вялікага бізнесу ЗША перагаворы з Савецкім Саюзам аб адмове ад рэалізацыі „стратэгічнай абароннай ініцыятывы“ раўназначныя таму, каб абмяркоўваць пытанне, як узарваць Уол-стрыт“...

На Уол-стрыт, вядома, ніхто не збіраецца рабіць замах. А вось што тузы з гэтай вуліцы банкіраў і магнатаў зброі імкнуцца ўзарваць з такой цяжкасцю ўзведзены нядаўна ў Жэневе савецка-амерыканскі палітычны фундамент, фундамент надзеі на лепшую будучыню, на тое, што чалавецтва без страху ўступіць у трэцяе тысячагоддзе, — факт бясспрэчны.

А. К.

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## ЧАМУ НЕ ПРЫХОДЗЯЦЬ?

Дзейнасць беларускіх студэнтаў менш ці больш вядома са старонак „Нівы". Адным яна можа здавацца багатай, другім беднай, але праўда ёсць заўсёды пасярэдзіне. Аб гэтай „праўдзе" паспрабую сказаць некалькі слоў. Сваё меркаванне абапіраю на трох мерапрыемствах, якія ўжо адбыліся ў гэтым годзе ў Варшаве. Былі гэта „атрасіны", баль беларускага студэнта, які адбыўся 25 студзеня, і агульны сход РК СБН 5 лютага 1986 г. Калі ў атрасінах прыняло ўдзел каля 150 асоб, на балі студэнтаў — 80, то на агульным сходзе было толькі... 16 асоб. Чаму так здарылася? Чаму не прыйшлі? Пачаў я шукаць нейкае лагічнае апраўданне такога становішча. Ну, дык па чарзе. Гэта было ў пятніцу вечарам, а 18 гадзіне. Многія маглі паехаць да сваіх бацькоў, магло здарыцца нешта неспадзяванае. Ці гэта магло здарыцца аднак з усімі? Што перашкодзіла прыйсці студэнтам са Смычковай (дзе адбываўся сход)? А жыве ж іх там нямала. З'явілася іх аграмадная колькасць... 5 асоб! Штосьці тут не ў парадку. На сходзе прысутнічала толькі 2 студэнтаў I курса. Правёў я некалькі сяброўскіх гутарак, у якіх студэнты, што не прыйшлі на сход, выказалі свае заўвагі на тэму дзейнасці РК СБН. (З некаторымі з іх рэдакцыя не згаджаецца). Большасць з іх свае заўвагі распачынае ад непрыемных успамінаў з вучобы ў белліцэях, дзе адзінай формай нацыянальнага ўсведамлення была прымусовая падпіска на „Ніву" і ў III або IV класе прымусовае ўступленне ў члены БГКТ. Галоўнымі аргументамі за такой развязкай справы было: „Такая ўжо ў школе традыцыя, а матура ўжо блізка, навошта вам клопаты!" Безадказны педагагічны падыход некаторых дзеячоў ствараe другі тып канфлікту, які заключаецца ў адносінах БГКТ — моладзь. Не бачыўшы дзейнасці таварыства ў школе, яны проста не вераць у ніякую дзейнасць таварыства (хаця ў Варшаве аддзел БГКТ арганізуе ў кожны чацвер цікавыя дыскусіі на гістарычныя, грамадскія ці літаратурныя тэмы).

Уступаючы ў рады РК СБН, гавораць, што не хочуць, каб іх ашукалі другі раз. Важнай прычынай лічаць яны адносіны да іх старэйшых студэнтаў — „дасведчаных дзеячоў", якія цэняць сябе вышэй усяго і сваімі паводзінамі не прыцягваюць, а адпіхаюць ад усякай дзейнасці.

Так што праблем перад студэнцкай моладдзю ёсць многа, а як з імі справімся, убачым у будучым. Ці будзем настолькі моцнымі, каб пакінуць свой след у нашым грамадстве, ці будзе гэта толькі крок перад чакаючай нас асіміляцыяй...

**Я. Вапа**

P.S. Рэдакцыя была б рада, каб аб сваіх праблемах напісала да нас моладзь з усіх студэнцкіх асяроддзяў. Пішыце, калі вы хочаце дзейнічаць у імя беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы! Усе адгалоскі будзем старацца апублікаваць.



Старшыня Варшаўскай Рады культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці Саюза польскіх студэнтаў мгр. інж. Пётр Багроўскі. Фота М. Гайдука.

**УВАГА! УВАГА!**

16 II 1986 адбылася вельмі важная ўрачыстасць у жыцці

**ВОЛЬГІ МУРАЎСКАЙ**
**і**
**ЯЎГЕНА ВАСІЛЮКА.**

У гэты дзень яны ўступілі на новую, супольную дарогу жыцця. З'ўляюцца яны студэнтамі беластоцкай вышэйшай школы і дзеячамі беларускага асяроддзя. Нашы пажаданні заключаем у радках вядучай беларускай песні:

„Яшчэ вам жадаем прыбытку ў хаце:
Не менш і не болей —
што год па дзіцяці".

Старайцеся, дарагія, каб вашы дзеці былі сапраўднымі беларусамі!

**Рэдакцыя**

## ВЯЛІКІ КОНКУРС

Рэдакцыя студэнцкага часопіса „Сустрэчы" супольна з рэдакцыяй „Прысутнасці" аб'яўляе конкурс. Мэтай конкурсу з'яўляецца папулярызацыя ведаў у галіне сучаснай беларусікі ды зносін у беларускім грамадстве. Сярод прысланых правільных адказаў будуць разыграны матэрыяльныя ўзнагароды (вялікая, фармату А-3 фатаграфія, каляровая міс беларускіх студэнтак у Польшчы — на фоне ракі Нараў). Ніжэй змяшчаем конкурсныя пытанні.

1. Каго датычаць гэтыя словы і хто іх сказаў: „...ууу, ён то як акцёр, ііі прыгожа гаварыць умее, ііі заплача як трэба, сапраўды як акцёр, ііі ўмее перакanаць..."

2. Просім падаць крыніцу, адкуль была ўзята жыццёвая мудрасць: „Лепш мець дзве, або і тры каханкі маладыя, чым адну старую жонку".

3. Хто і калі напісаў скаргу ў гісторыю? Просім падаць годы аўтара скаргі...

4. У трэцім нумары „Сустрэч" Я. Яновіч раз'ясняе праблему чалавечай годнасці ў сучасным аспекце. Просім падаць тры найбольш годныя асобы ў беларускім студэнцкім асяроддзі паводле роздумаў Яраслава Яновіча.

5. Баляслаў Прус у сваёй навелцы „Антэк" прадстаўляе вобраз цяжкага жыцця сялян, асабліва моладзі, у мінулым стагоддзі. Пытанне: каго сёння называюць мянушкай „Анткі" ў беларускім асяроддзі ў Польшчы?

Адказы просім прысылаць у адрас рэдакцыі „Сустрэч". Warszawa, ul. Senatorska 8, skr. pocz. 244, Klub BTSK, з прыпіскай вялікімі літарамі „КОНКУРС".

## ХРОНІКА

25 I 86 г. РК СБН арганізавала ў студэнцкім клубе „Акцэнт" баль беларускага студэнта. Прысутнічала каля 80 асоб. Пры музыцы „Беларускіх гітар", калектыву аддзела БГКТ у Варшаве, усе весела праводзілі час ад 21.00 да 6.00 наступнага дня.

Як заўсёды, быў слаўны буфет.

5 II 86 г. Адбыўся агульны сход Рады культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці. У дыскусіі гаварылася аб „мігрэне", на якую захварэла наша асяроддзе. Старшынёй рады астаўся надалей Пётр Багроўскі. Яго намеснікам — Косця Сцепанюк. Былі выбраны шэфы асобных камісій: навуковай — Л. Ваўранюк; турыстычнай — А. Петручук, выдавецкай — В. Сельвясюк. У прэзідыум увайшлі таксама: М. Саевіч і Ю. Грыгарук.

Жадаем поспехаў у кожнай дзялянцы!

Старонку падрыхтавалі: Юрка Ляшчынскі, Яўген Вапа і Хрысціна Саковіч. Аўтарскія ганарары — на музей.



У Беластоцкім запаведніку. Лёнік

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



**Лаўрэат першай узнагароды Юрка Кулік з Пашкоўшчыны.**

# ШТО СЭРЦУ САМАЕ БЛІЗКАЕ

У адну з вельмі марозных субот лютага (22) у Беластоку адбыўся чарговы дэкламатарскі конкурс для школьнікаў. Арганізатарамі яго, як заўсёды, былі Галоўнае праўленне Беларускага таварыства і Кураторыя Беластоцкай школьнай акругі.

Сёлета, у год 30-годдзя існавання БГКТ, тэмай конкурсу было „Усё, што сэрцу самае блізкае". Таму ў рэпертуары пераважалі творы патрыятычнага і пачуццёвага характару: думкі ішлі ад сэрца аб самым глыбокім, блізкім, родным. Творы падбіраліся вельмі старанна. У некаторых школах больш сканцэнтраваліся на творах „белавежцаў", іншыя настаўнікі выбралі патрыятычныя творы і пісьменнікаў з Беларусі. Адно важна: конкурс гэты быў песняй аб Радзіме, родным парозе, любві да ўсяго матчынага і бацькоўскага, да роднага, беларускага. Са сцэны гучалі глыбокія, ад сэрца словы Віктара Шведа:

Я беларус, і гэтым ганаруся.<br>
Усім душу сваю магу адкрыць:<br>
Ніколі і нідзе не адракуся,<br>
Што беларусам жыў і буду<br>
жыць.

Або

Дзе б толькі мяне лёс не<br>
кінуў,<br>
З далёкіх і блізкіх дарог<br>
Заўсёды знайду пуцявіну<br>
На родны бацькоўскі парог.

* * * * * * * * *

А прадзедаў мовы багатай<br>
Не здраджвае праўнук.<br>
З пашанай<br>
Яе са старэнькае хаты<br>
У дом пераносіць цагляны.

Апрача вельмі папулярных вершаў Віктара Шведа, са сцэны гучалі творы Алеся Барскага, Сакрата Яновіча, Юркі Геніуша, Міхася Шаховіча, Віктара Рудчыка і шмат-шмат іншых беластоцкіх і беларускіх паэтаў і пісьменнікаў.

У конкурсе ўдзельнічала 26 чалавек з 13 школ Беласточчыны. 25 дзяўчатак і адзін хлапчук. Хлапчук гэты, Юрка Кулік з Пашкоўшчыны, не спалохаўся такой перавагі дзяўчат і выступіў вельмі ўпэўнена, заваяваўшы першую ўзнагароду. Раўназначныя з ім узнагароды заваявалі таксама Яся Екацярынчук і Эля Томчук з Бельскай школы № 3.

Тры другія месцы прызнаны былі Элі Маркевіч з Бельска, Дароце Гіпцт з Дубін і Алі Дзмітрук з Орлі.

Трэція месцы падзялілі Івона Іванюк з Крывой, Эля Гаралеўская з Нарвы і Марыся Хмур з Дубяжына.

Цудоўна выступіла маленькая трэцякласніца з Орлі Аня Главацкая. За сваё выступленне яна атрымала гучныя апладысменты публікі і раўназначную з першым месцам першую ўзнагароду „Зоркі". Другую ўзнагароду „Зоркі" заваявала Еля Мішчук з Бельскай школы № 3, а трэцюю — Марынка Аліфер з Ляўкова.

Вялікае дзякуй усім выканаўцам і іх настаўнікам за добрую падрыхтоўку да конкурсу і ўдалае выступленне.

**Явіна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



**Дзяўчаткі з Орлі — Аня Шэйкоўская і Аня Главацкая, якая заваявала першую ўзнагароду „Зоркі".**



**Удзельніцы сёлетняга дэкламатарскага конкурсу з Бельскай школы № 3. Сярод лаўрэатак І месца Яся Екацярынчук і Эля Томчук. ІІ месца — Эля Маркевіч, атрымаўшая другую ўзнагароду „Зоркі" Еля Мішчук, а таксама Сабінка Мэтэнька, Кацярына Краўчук і Рэнатка Падолец.**

---

**Ул. Гардзейчаў**




**КАЗКА**

**Пачатак у папярэдніх нумарах**

4

*Змрок згусцеў, мароз імгліцца,*<br>
*елкі хмурацца на ім:*<br>
*адмарозілі ігліцы,*<br>
*не варушацца зусім.*

*Гнуцца дрэвы ля дарогі,*<br>
*снег трымаючы ледзь-ледзь.*<br>
*Праз сумёты да бярлогі*<br>
*кацяня прынёс Мядзведзь.*

*Жарам пыхае, ў зацішны*<br>
*свой залазячы загон:*<br>
*— Ціха, мышы, кот увішны!..*<br>
*загудзеў басіста ён.*

*Задаволена ўсміхнуўся:*<br>
*маўляў, выйдзі, Ох, цяпер!...*<br>
*Неўзабаве ўладкаваўся*<br>
*і спакойна захрапеў.*

*Небяспечны стаў закутак*<br>
*мышанятам з той пары.*<br>
*Пыгоць, пыгоць. Двое сутак*<br>
*не выглядваюць з нары.*

*Пагуляць, прыдумаць жарты*<br>
*Аху з Охам не карціць:*<br>
*ля нары, як тыгр лахматы,*<br>
*незнаёмы звер сядзіць.*

*У бярлозе сумны будзень.*<br>
*Цемра ўсюды, глухата.*<br>
*Моліць, просіць:*<br>
*— Больш не будзем!*<br>
*Ох сярдзітага ката.*

*Кот усеўся недарэмна,*<br>
*точыць зубкі, бы ўхналі,*<br>
*і гараць, мігаюць з цемры*<br>
*вочы, быццам вугалі.*

*Трэці дзень здаваўся годам,*<br>
*хоч ён скончыцца бядой,*<br>
*каб Цімох у час абходу*<br>
*не прыйшоў да ямы той.*

*Кацяня ляснік паклікаў*<br>
*ад Мядзведзя на мароз*<br>
*і на рукі ўзяў Мурлыку:*<br>
*— Правучыў мышэй, нябось?*

*Пад кажух малога сунуў,*<br>
*нацягнуў свой малахай:*<br>
*— Спі, Мядзведзь,*<br>
*не бойся шуму,*<br>
*у цішы адпачывай...*

*Дзед пайшоў.*<br>
*З той хвілі мышы*<br>
*не паўзлі ў чужыя сны,*<br>
*не трывожылі зацішак,*<br>
*жылі ў яме да вясны.*

*Мышалоў — іх вораг люты —*<br>
*спаў у хаце на баку,*<br>
*і мядзведжы сніў закутак,*<br>
*і мурлыкаў лесніку*<br>
*пра свавольны ўчынак Оха,*<br>
*што Мядзведзя казытаў.*<br>
*З вуснаў чулася Цімоха.*<br>
*— Арыфметыка, так-так...*

*З хадой падзей тых рупна*<br>
*час ляцеў, нібыта ў сне,*<br>
*непрыкметна, неадступна*<br>
*набліжаў усіх к вясне.*

*А вясной было ў Цімоха*<br>
*процьма мёду: ён прыпас*

**(Працяг на стар 10)**

З чаго смяюцца суседзі

## ТРЭНІРОЎКА

На падворку механізатара Пятра Рыгоравіча Неперaлі́ўкі шумна. Каля клуні бацька і трое сыноў. У руках Неперaлі́ўкі — секундамер. Пятро Рыгоравіч скосу паглядае то на цыферблат, то на сваіх хлопцаў.

— Пачалі! — раптам камандуе ён.

Браты зрываюцца з месца і стрымгалоў бягуць да дзвярэй клуні. Каля парога яны збіваюцца ў кучу. Уваход у клуню вузкі, і траім разам у сярэдзіну ніяк не трапіць. Кожны з хлопцаў крэкча, сапе, адштурхоўвае лакцямі саперніка.

Вось адзін з іх, павярнуўшыся бокам, ужо, можа, на палову тулава ўціснуўся ў прапахлае цыбуляй памяшканне. Але браты своечасова хапаюць яго за ногі і выцягваюць зноў на падворак. Усё пачынаецца спачатку.

Нарэшце, найбольш спрытны, сабраўшы ўсе сілы, робіць надзвычайны рывок і, раскідаўшы братоў, улятае ў клуню.

— Трыццаць секунд! — крычыць, спыніўшы секундамер, Пятро Рыгоравіч. — А трэба хаця б пятнаццаць. Заўтра ж нядзеля. Давай яшчэ раз!

Трэніроўка пасадкі на заўтрашні нядзельны аўтобус да райцэнтра працягваецца.

Ф. Сухоніс



## НІЎКА



— На вашай ліцэнзіі не хапае аднаго подпісу.

### ПАЕХАЛІ

Калі сям'я села абедаць, за акном мільганула постаць суседкі.

— Чэрці не нясуць! — вылаялася маці. — Скажыце, дзеці, што мяне няма дома. Я паехала.

А сама схавалася пад сталом. Вось і суседка ў хату.

— А маці няма дома, — кажа найменшае. — Яны паехалі пад стол.

### ПАРАЎ

— Сёння ў вас нейкі паганы выгляд. Усё-ткі пастарайцеся выконваць мае парады і не курыць больш пяці папяросаў у дзень.

— Так, так, пане доктар, але дасюль я зусім не курыў...

### ВЫКЛЮЧЭННЕ

— Адзінае, што супярэчыць законам росту чалавечага арганізма, — гэта жывот, — даводзіў студэнт-медык на экзамене. — Той працягвае расці і пасля 25 гадоў.

### ВЫЙСЦЕ ЗНОЙДЗЕНА

— Вы ўсё яшчэ захапляецеся спіртным?

— Так, бывае, праўда, у сне.

— Ну і як?

— Добра. Галава не баліць і бутэлькі здаваць не трэба.

### РАСТЛУМАЧЫЎ

Сварацца маладжоны.

— Ты проста дзіўны чалавек! — здзіўляецца Магда. — Я абзываю цябе дурнем, ідыётам і ёлупам, а ты хоць бы вухам павёў!

— Ты ж ведаеш, дарагая, што я рыхтуюся да экзамену на футбольнага суддзю!



Кожнага, перад кім гнуў спіну, лічыў ліліпутам.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Гэтаму пану Дувалду заўсёды шчасціла...

— Што ты маеш на ўвазе?

— Еў ён вустрыц і праглынуў жамчужыну, ды такую каштоўную, што яе хапіла, каб аплаціць не толькі знаходжанне яго ў бальніцы, але і пахаванне!

*

Маці маладой дзяўчыны:

— Вы зрабілі прапанову маёй дачцэ. А чаму вы раней не звярнуліся да мяне?

— Прабачце, але ж я не ведаў, што і вы кахаеце мяне.

*

— Чаму ў зайца пярэднія ногі карацейшыя? — пытае адзін сябар другога.

Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:

— Таму што Бог стварыў яго ў канцы чацвёртага квартала.

### МІНІВЕРШЫ

#### АДДАНЫ

Ён бацькам такі адданы:
— Нікуды ад вас, старыя!
І не думае з гадамі
Злезці ён з бацькоўскай шыі.

Сямён Оркін

#### БЕРАЖЛІВЫ

Натугі пазбягаў Пахом:
Не падвярэдзіцца б, маўляў.
І там, дзе трэба браць плячом,
Падножку толькі падстаўляў.

Андрэй Лешчанка

З „Весніка Задрыпоніі"

### УРОКІ ВЫХАВАННЯ

В. Сідаронак за двойкі рэгулярна біў свайго сына да 8-га класа ўключна. Гэта прыкметна адбілася на фізічным развіцці хлопчыка — ён вырас моцным, мужным, трэніраваным і цяпер, будучы ўжо дарослым, часта сам лупцуе бацьку.

### НАВІНКА

У Задрыпатэльне прыменены новы метад рамонту тэлевізараў. Цяпер ён цалкам залежыць ад лопнуўшага цярпення іх уладальнікаў.



Без слоў.



— Не разумею, чым табе не падабецца мой падарак?



— Спыніся, імгненне.

## КУРЁЗЫ

### ПРАФЕСАР ПАЎТАРАЕЦЦА

Фрыдрых Шрэдэр з Рэгенсбурга — высокапастаўлены юрыст. Ён загадвае кафедрай крымінальнага права, крымінальна-працэсуальнага кодэкса і ўсходняга права ў Рэгенсбургскім універсітэце. Аднак ён заслугоўвае больш кароткага тытула — „расіст". Газета „Франкфуртэр альгемайнэ" апублікавала цікавую прапанову гера прафесара: іншаземцаў, што жывуць у ФРГ, трэба за процізаконныя дзеянні караць больш жорстка, чым немцаў, за аналагічныя дзеянні. Дык жа іншаземцы, разважае прафесар Шрэдэр, у сябе на радзіме прывыклі да больш суровай кары, таму яны валодаюць „больш слабой уразлівасцю да пакаранняў".

Інакш, лупі нізшую расу ў хвост і ў грыву, іншых адносін гэтыя недачалавекі не разумеюць.

### ПРАФЕСІЙНАЯ ЦІКАВАСЦЬ

У адной стакгольмскай бальніцы ля ложка хворага легкаатлета сядзеў лекар. Змераўшы тэмпературу хворага, ён паглядзеў на тэрмометр і занепакоена сказаў: „Сорак і адна дзясятая. Не, нават сорак і дзве дзесятых. Такое ў нашай бальніцы здараецца рэдка". Тут спартсмен прыўзняўся і спытаў: „А які рэкорд вашай бальніцы?".




Добры чалавек не конь, не спяшайся садзіцца на яго вярхом.